Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 18 (72) Нядзеля, 19-га Красавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гада. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр. за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

## Благі спосаб.

Няраз мы зазначалі, што голымі паліцэйскімі спосабамі нельга дабіцца ладу і спакою ў нашым гаротным краі.

Побач з вострымі спосабамі, якія ўжывае адміністрацыйная ўлада ў барацьбе з сапраўды нелегальнаю дзейнасьцю пэўных укрытых сіл, мусяць ісьці рашучыя аздараўляльныя рэформы і людзкія адносіны да лёяльнага насяленьня, лёгальна кажучага аб сваіх правох і жаданьнях.

Тымчасам рэформы зацягваюцца, а адміністрацыйная практыка, бачачы ліха амаль ня ў кожнай беларускай хаце, напрыклад, у Наваградчыне, пераходзіць усялякую меру.

Мы ўжо зьмяшчалі паведамленьні з месцаў, як упіраліся валасныя войты сьведчыць беларускія школьныя дэкларацыі, запамінаючы пра тое, што гэта іх просты абавязак, які выцякае з закону 31 ліпня 1924 году і з разьясьненьняў міністэрства. Некаторыя з п.п. войтаў не прамінулі нават таго, каб застрашваць падаваўшых школьныя дэкларацыі беларускіх сялян, разьлічаючы на іхнюю цемнату.

Благі жарт робяць гэткія войты, бо благі прыклад адсутнасьці ў сваіх душах пачуцьця законнасьці падаюць падуладным ім беларускім сялянскім масам.

Але бывае й яшчэ горай.

Вяліколным ячэкам у Наваградчыне былі сёлета для беларусаў проста масавыя вобыскі, а пры іх ведама што й арышты.

„Kurjer Polski" за 15.IV № 103 натуе, што ў адным навагрудзкім павеце затрымана пасьля гэтых масавых вобыскаў аж 1368 асоб, з якіх 140 пасаджана ў вастрогі.

З месцаў да нас даходзяць чуткі, што ў рашучай большасьці выпадкаў вобыскі й арышты зваліліся на галовы асоб, праводзіўшых акцыю складаньня сялянствам школьных беларускіх дэкларацыяў.

Хваля вобыскаў не абмінула і тых беларускіх адзінак, якія належаць да саўсім лёяльных з пункту гледжаньня польскае дзяржаўнасьці беларускіх арганізацыяў.

Сталічная польская прэса аб гэтым, пакуль што, чамусьці маўчыць, а тутэйшыя віленскія польскія газэты інфармуюць аб нейкіх рэчавых доказах, знойдзеных у дзе-кага з затрыманых асоб падчас вобыскаў. Аканчальна справу вырашыць суд і наперад няма чаго гадаць, аб чым могуць сьведчыць выкрытыя *рэчавыя доказы*.

Але направіць факт недаверыя мясцовае адміністрацыі да выразна лёяльнага беларускага грамадзянства немагчыма нічым. Супакоіць абурэньне вобыскамі ды арыштамі нашае патрывожанае інтэлігэнцыі немагчыма.

Хіба-ж наша віна ў тым, што мы — беларусы? Ці-ж наша віна, што кожны асобна мусіць падаць школьным уладам дэкларацыю аб пажаданьні роднае школы? І ці наша толькі ўласная віна, што няпісьменны селянін ідзе за падмогай у даным выпадку да болей асьвечанага сына нашае нацыянальнае сям'і—беларускага інтэлігэнта?

Незаконныя дзеяньні мусяць мець у сваім рэзультаце кару, але цярпець за дзеяньне, якое зьяўляецца правам, наданым згары, прыкра кожнаму і шкодна агульнаму дзяржаўнаму спакою.

Туман гісторыі надаўніх часоў, засланяўшы нашу нацыянальную сьвядомасьць, развеяўся і нішто ня можа запалохаць беларуса ў яго барацьбе за сваё права законнымі спосабамі.

Мы ня можам зрачыся свае нацыянальнае сутнасьці, як ня можа зрачыся і народ польскі.

Зьліць беларусаў з палякамі у сэнсе нацыянальным абсолютна немагчыма. Нацыянальныя азнакі ў кожнага народу заўсёды застануцца свае.

Нарэшце, ўсякая асыміляцыя вырабляе толькі фарбованых лісоў, не пераражаючы нацыянальнае сутнасьці чалавека.

Але ўсяго гэтага ня хочуць і ведаць нашыя крэсовыя адміністратары: яны лічаць, што польскасьць на крэсах можна прышчапіць штучна і толькі адным махам цьвёрдае адміністратарскае рукі, запамінаючы што ўсякі неабаснаваны гвалт выклікае хоць-бы й пасыўную, але процідзейнасьць.

Ужо-ж мінулі назаўсёды часы фараонаў і ня вернуцца, пакуль будзе істнаваць культурнае чалавецтва. Калясьніца ўлады ня можа сёньня таптаць і вінаватага і нявіннага разам нідзе на сьвеце.

На нашых толькі няшчасных *крэсах* праявы сярэднявечча ў пастаці пагранічнага бандытызму выклікаюць залішнюю трывогу і нэрвовасьць у прадстаўнікох дзяржаўнага апарату.

Калі што-нібудзь праступнае і задумвалася ў Наваградчыне, дык не ў разьмеры ўсё-ж такі паважнага ліку абысканых асоб, і спосаб барацьбы з элемэнтамі праступнымі пры самым строгім парадку не павінен чапаць звычайных добрых грамадзян, бо йначай сам спосаб гэты аказваецца благім, цягнучы за сабою прыкрыя пасьледзтвы.



## *Хрыстос Уваскрос!*

Нясецца адаўсюль радасная вестка! Аб гэтым гавора зямля, пяюць птушкі, радасна лес шуміць і сонца праменьні быццам сьмяюцца...

Усё цешыцца, ўсе пяюць: „Хрыстос Уваскрос!...

А чаму-ж у мяне так сумна на душы?

Чаму жаль нейкі сэрца апанаваў? Чаму?...

Гудзяць званы і гук іх у даль лясоў, палёў ідзе, апавяшчаючы ўсім: Хрыстос Уваскрос!...

Скончаны дні-ночы панаваньня!

Сьвет зазьяў усім людзям і зерне згоды ўзыйшло...

Дык бярэце-ж яго, людзі! Хутчэй бярэце! Ня дайце згінуць! Хутчэй палівайце яго вадой жывой, каб прарасло яно!

Гудуць званы! Цешыцца неба і зямля!

А чаму-ж так сумна на душы?

Чаму жудасна робіцца, цяжка? Чаму?

Гэй, спынецеся, людзі, каваць кайданы!

Будаваць муры турмаў! Ліць кроў братоў сваіх! Выкіньце з сэрца злосьць, ночы панаваньне і зьдзек над меншымі братамі!...

Не, не! забылі людзі слоў Яго завет!

Забылі мукі на крыжы! Ноч далей ў сэрцах іх пануе і ня чуюць людзі, як усё кліча да згоды, да супольнае працы, да словаў Яго сьвятых!...

Гудуць званы! Цешыцца неба і зямля! І ўсё гавора: Уваскрос Хрыстос!...

. . . . . . . . . . . . . .

Стыне кроў, мацнеюць краты, зьвіняць кайданы...

Плача сэрца, плача Яго душа, і з вачэй сьвятых ізноў льюцца на зямлю Яго сьлёзы... Яго забыты словы:

«Мір вам, людзі!...»

**Дзяргач.**

*Чытайце і выпісвайце „Грамадзкі Голас".*

„Пераглядаючы ў Вашай газэце абвесткі аб новых беларускіх кнігах, выданых Дзяржаўным Выдавецтвам Беларусі, чытач-беларус чамусь ня бачыць у гэтых абвестках беларускіх кніг. Я ведаю, што апошнімі часамі вышла з друку досіць многа кніг беларускіх, але ні аб аднэй з іх у гэтых абвестках ні слова. Няўжо беларуская кніга не заслужыла яшчэ такой пашаны, каб аб ёй даваць абвесткі? Ці ня можна было-б праз Вашу газэту запытаць, хто дае гэтыя абвесткі і папрасіць яго абясьніць, чаму не даюцца абвесткі аб новых беларускіх кнігах?“

Паважаны беларускі пясьняр наіўна пытаецца — чаму?

А проста можа й таму, што ня было аб гэтым загаду ад каго належыць!..

### Беларусаў перасяляюць у... Сыбір і на Далёкі Усход.

У газэце камуністычнай партыі ў Менску „Звезда“ за 10.VI ёсьць заметка аб тым, што **Бабруйскаму** вокругу пазволена (?) перасяліць у Сыбір і на Далёкі Усход 815 душ, у Омскую, Нова Мікалаеўскую, Томскую, Іркуцкую і Енісейскую губэрні — 375 душ. У Амурскую абласьць Далёкага Усходу — 340 душ.

Дружынам, якія ня маюць 2-х працаздольных, перасяленьне забаронена. Працаздольнымі лічацца мужчыны ад 18 да 55 гадоў, жанчыны ад 18 да 45 гадоў. Паўпрацаздольнымі лічацца сябры дружыны ад 14 да 18 гадоў.

Перасяленцам даюцца ільготы пры плаце падатку з сельскай гаспадаркі ад 3 да 5 гадоў і пры адбываньні яўкі ў войска да 3 гадоў.

Сьпіскі перасяленцаў робяцца вясковымі радамі.

### Беларусізацыя Гомельшчыны.

Як вядома, Гомельшчына не ўваходзіць у склад Беларускае Радавае Рэспублікі. Але беларускасьць пакрысе пранікае ў школьную працу і там. З газэты „Савецкая Беларусь“ даведваемся, што нацыянальна-культурная праца пачата ў Гомельшчыне толькі з лютага месяца сёлетняга году. У гомельскім і рэчыцкім паветах ёсьць ужо 35 школ, у якіх вучэньне I і II групаў вядзецца толькі ў беларускай мове, а ў 28 школах з гэтага ліку беларуская мова ўведзена і ў старэйшых групах, як прадмет. У 15 школах вядзецца азнаямленьне (?) з беларускаю моваю ў першай групе. Добра працуюць на беларускай мове 5 лікпунктаў і 3 хаты-чытальні. Арганізована 5 беларускіх гурткоў і пастаўлена ўжо каля 30 беларускіх спэктакляў. Намечана да пераходу на беларускую мову з будучага школьнага году ў рэчыцкім павеце яшчэ 51 школа і 12 хатаў-чытальняў. А ўсяго, апрача тых, якія істнуюць і зацьверджаны, 35 беларускіх школаў, назначаны да пераводу па Рэчыцкаму і Гомельскаму паветам 108 школ. Выяўлена, што ў Клінцоўскім пав. Гомельшчыны ёсьць 20 школ, у якіх дзеці выключна беларусы, а ў Навазыбкаўскім пав. ўжо вызначаны 4 школы, ў якіх настаўнікі могуць працаваць на беларускай мове.

Вядзецца праца па адшуканьню коштаў на арганізацыю ўлетку настаўніцкіх беларускіх курсаў ня менш як на 50 — 100 чалавек.

---

# Жыцьцё провінцыі.

### Калатня сярод духавенства.

Нам пішуць з **Новага Пагосту,** Дзісенскага павету:

„У газэце „Грамадзкім Голасе“ № 14 (68) ад 25 сакавіка невядомым аўторам зьмешчана корэспондэнцыя, аб былым і цяперашнім сьвяшчэньніках Нова-Пагоскага прыходу Дзісенскага павету. Ня стоіла-б лепш адказваць на гэту зусім неадпавядальную праўдзе корэспондэнцыю, але, як стары прыхаджанін гэтай царквы, не магу ўтрымацца, каб ня даць адказу. Мне здаецца, што асоба, напісаўшая вышэй паказаную корэспондэнцыю, або зусім ня была ў Н.-Пагосьце, або ня ведаець сьв. Сіняўскага, або развучылася адрозьніваць праўду ад няпраўды. Што сьв. Сіняўскі беларус гэта можа і праўда, але што ён ня хоча й ведаць беларускай мовы і ў карані ня прызнаець ніякай Беларусі гэта таксама праўда. Сьв. Сіняўскі праслужыў 18 гадоў—гэта добра, але што за 18 гадоў яго дзейнасьці больш як 2 тысячы прыхаджан перайшло ў другую веру, каб толькі збавіцца ад „любімага сьвяшчэньніка“ — гэта мусіць і нядобра; нядобра, мне здаецца, і тое што сьв. Сіняўскі за 18 гадоў усьпеў зруйнаваць зусім царкву і царкоўныя будынкі. Далей аўтор піша, што прыхаджане тры разы прасілі Архіепіскапа Хвядоса пакінуць ім Сіняўскага. Можа гэта і праўда... але з боку аўтора нясуменна было ня прыпомніць, што тыя-ж прыхаджане ня тры разы, а да 10 разоў прасілі таго самага Архіепіскапа і навет Мітрапаліта забраць ад іх сьвяшч. Сіняўскага і што на апошніх просьбах былі падпісаўшыся ня дзеці і старыя жанчыны, а мужчыны (маючыя розум), апякуны царквы, каторым запраўды дарага праваслаўная вера. Далей аўтор з сэрцам апісаў выпадак у Нова-Пагоскай царкве 8.III., калі народ у царкве як быццам стагнаў і плакаў, просячы каб застаўся сьв. Сіняўскі. Тут ужо сапраўды адно з двух: ці аўтор здатны толькі маніць, ці ён забыўся, што старая матка сьв. Сіняўскага дапусьціла няпрыемныя выклікі ў царкве. Не забыўся аўтор тут сказаць і пра „цуд“ у царкве. Аўтор піша: „Тут-жа прыхаджане пастанавілі пісаць просьбу ў Сінод, каб вярнуць Сіняўскага. У гэты час вялікі дубовы кіот з абразамі Міколы Цудатворцы і Сарафіна Сараўскага ад невядомай прычыны ўпау і пакалечыў Ксеню Валіцкую“. Аўтор тлумачыць гэты „цуд“, што як-бы навет сьвятыя ня хочуць, каб сьв. Відабіда служыў. Тут ужо аўтор паказаў, што ён зусім ня лічыцца з лёгікай. Бо, паводле лёгікі, выходзіць, што абраз сьвятых упаў у той час, калі парафіяне рашылі прасіць Архіепіскапа пакінуць Сіняўскага і з гэтага відаць, што сьвятыя протэставалі проці Сіняўскага а не Відабіды. Дзіўлюся, чаму аўтор ня сказаў пра другі „цуд“ у нашай царкве. Калі сьв. Сіняўскі, ня маючы права, пасьля яго звальненьня, самавольна вышаў гаварыць пропаведзь і ў час яго мовы адарвалася ад сталяваньня шчыкатурка і каб ён ня схінуўся ў бок ад шуму ляцеўшай гліны, дык напэўна ўдарыла-б па галаве, а так толькі малыя кавалачкі зачапілі яго па плячох. Цікава ведаць думкі аўтора каго ў гэтым выпадку выганяла царква? Сьв. Сіняўскага ці сьв. Відабіду?“. **Прыхаджанін.**

### Протэст Таварыства Беларускае Школы ў Наваградку.

Нам прысланы для апублікаваньня гэткі протэст:

Управа Таварыства Беларускае Школы ў Наваградчыне, выбраная грамадзкай дарогаю, выражаючы волю сьвядомага беларускага грамадзянства, якое працуе ў Наваградчыне больш як 4 гады, гэтым протэстуе перад Урадам, грамадзянствам і заканадаўчымі органамі проці зьдзекаў, якія апошнімі днямі спаткала з боку мясцовае адміністрацыі ў форме безпадстаўных і да нічога ня вёўшых вобыскаў у паасобных сяброў Прэзыдыуму Т-ва, якія мелі месца 4 і 6 красавіка бягуч. году.

Гэтыя акты гвалту маюць найвідочнейшую мэту стэрорызаваньня паасобных сяброў Управы, а таксама здыскрэдытаваньня яе працы ў вачох грамадзянства.

Управа Таварыства, зьвяртаючыся з гэтай апэляцыяй да лепшае часьці польскага народу, робіць гэта ў глыбокім пачуцьці свайго абавязку абароны беларускага нацыянальнага рэнэсансу, як гэтак сама й лічыць, што падобныя акты з боку прадстаўнікоў улады на месцы касуюць у зародку ўсякую магчымасьць праўдзівага пладатворчага зьбліжэньня і зжыцьця беларускіх масаў з польскаю дзяржаўнасьцю, а беларускай інтэлігэнцыі, ідучай дарогаю шчырага й лёяльнага супрацоўнічаньня, зачыняюць усякую магчымасьць абапёрціся на масавым грунце.

Лёяльная дзяржаўная пазыцыя Таварыства не магла будзіць самае найменшае няпэўнасьці; за гэта гаварыў рад гадоў працы, за гэта гаварылі ўсе публічныя выступленьні й дэклярацыі, заўсёды падкрэсьліваўшыя гэту пазыцыю.

Старшыня Управы *Сьвірыд.*
Сябар Прэзыдыуму *Аляксюк.*
Наваградак 8.IV. 1925.

### Дзіўная палітычная камбінацыя.

Па розных месцах *крэсаў* лятае фігура нейкага п. Цяўлоўскага, які нібыто робіць нейкую беларускую работу. Прынамсі, гэты Цяўлоўскі мае гучнае прозьвішча прэзэса „Камітэту для Беларускіх (?) справаў“.

Што і як ён робіць нікому невядома. Аднак-жа гэты пан выступаў з гучнай прамовай, навет у беларускай мове, на зьездзе пястоўцаў у **Баранавічах;** Гэты зьезд рабілі п.п. паслы Вітос (б. прэзэс Рады Міністраў) і Кернік. Здавалася-б нам, што адначасовае выступленьне гэтак значных польскіх дзеячоў як п.п. Вітос і Кернік разам з п. Цяўлоўскім выглядае гумарыстычна, аднак-жа, калі дадаць сюды тое, што сэкрэтар п. Цяўлоўскага Фёдоров, а разам з ім і рэшта сяброў гэтага „камітэту“ арыштованы па абвінавачаньню ў надта бруднай справе, дык напэўна, контакт „Piasta“ з гэткай групай можа толькі скомпрамітаваць самы „Piast“. Тым болей, што зьезд у Баранавічах быў першым візытам „Piasta“ на нашых крэсах ад момэнту паўстаньня Сойму. Бязумоўна візыт няўдалы.

Адносіны беларускага грамадзянства да п. Цяўлоўскага і яго „камітэту“ зусім выразныя і комэнтараў не патрабуюць.

**Баранавіцкі.**

---

# Тутэйшая хроніка.

= **Сьвята для праваслаўных ураднікаў.** П. Дэлегат Ураду на Віленшчыну ў адказ на просьбу архіепіскапа Віленскага і Лідзкага паведаміў, што ён зробіць распараджэньне аб звальненьні ад заняткаў на сьвяты праваслаўных служачых ў дзяржаўных установах ад 12 г. ўдзень 18 гэт. красавіка па 20. IV ўлучна.

= **Яшчэ аб заграгічных пашпартох.** Як піша „Виленское Утро“, скарбовыя ўлады пры зыдачы пасьведчаньняў аб беднасьці, што даюць права на ільготныя заграгічныя пашпарты, павінны кіравацца рэзалюцыяй мін. скарбу: Незаможнымі і вартымі ільготных пашпартоў павінны прызнавацца гэткія асобы, для якіх аблічаны даход дзеля накладу падатку ад маемасьці у 3.600 злотых, маемасьць якіх ацэнена для абкладу падаткам ня вышэй за 20.000 злотых, а абарот за 1924 г. аблічаны ня больш як у 15.000 злотых.

= **Няпраўда аб Польска-Беларускім Таварыстве.** У мясцовых газэтах „Виленское Утро“ і „Dziennik Wileński“ за 16.IV. 1925 г. зьявілася заметка аб польска-беларускім таварыстве, закладчыкам якога паказаны, паміж іншым, і рэдактар нашае газэты п. Я. Салавей. У гэтай сваёй часьці паважаныя газэты наблуталі, бо п. Салавей статуту польска-беларускага таварыства не падпісваў і, значыцца, яго закладчыкам не зьяўляецца.

= **П’янства.** За 16 дзень гэтага кастрычніка меставою паліцыяй затрымана на вуліцы 18 п’яных асобаў.

= **Прапала жонка.** Пётра Ляўковіч (Радунская вул. 42) заявіў паліцыі аб прапажы свае жонкі.

= **Буян.** Паліцыяй VI камісарыяту затрыманы Язэп Басяцкі (Антокаль 103), які пагражаў публіцы рэвальвэрам і трывожыў публічны спакой.

= **Падкідач дзіцяці.** Паліцыя затрымала Яраслава Дубіцкага, які прабаваў падкінуць дзіця мужчынскага полу.

= **Юрыдычны дарадчык.** У сучасным жыцьці вёскі больш чым калі-нібудзь ў другія часы выступаець на першы плян патрэба ў юрыдычнай дапамозе. Аднак, не заўсёды і ня ўсюды можна адтрымаць яе. Бо адвакаты жывуць ў гарадох, а да гораду ня так скора даскочыш. Тымчасам бываець, што трэба мець ці параду, ці падаць прашэньне або скаргу як мага хутчэй.

І вось ідучы насустрэчу гэтай патрэбе, беларусы-юрыстыя прыступілі да выданьня кніжкі „Юрыдычны дарадчык“, у якой кожны селянін знойдзе популярнае тлумачэньне, як і што трэба рабіць у кожным выпадку. Там-жа будуць зьмешчаны ўзоры усялякіх просьбаў, скаргаў і інш. па усякіх судзебных і іншых справах.

Гэтая кніжка павінна быць у кожнага селяніна.

Тымчасам адчынена падпіска. Цана падпіскі 5 злотых. Пасьля выпуску ў розьнічную прадажу цана будзе падвышана.

Падпіска прымаецца ў Рэдакцыі „Грамадзкага Голасу“ і ў Беларускай Кнігарні (Завальная вул. № 7).

„Юрыдычны дарадчык“ выйдзе да 15-га траўня (мая) гэтага году.

---

Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.